# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 4 6 чэрвеня 1928 г. № 4

ЗЬМЕСТ



# Школьнае будаўніцтва пад кантроль мас.

Пытаньне аб пабудове для школ будынкаў зьяўляецца надзвычайна важнай задачай; ад пасьпешнага вырашэньня гэтай задачы залежыць правядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня, правільная арганізацыя занятκаў і выхаваўчай працы, стан здароўя падрастаючага пакаленьня. Ня можа быць і гутаркі аб правядзеньні ўсеагульнага навучаньня без належнага тэмпу школьнага будаўніцтва. Адчыненьне новых школьных камплектаў упіраецца, як у гранітную скалу, у адсутнасьць школьных будынкаў. Калі ў папярэднія гады пад школы можна было скарыстаць будынкі з панскіх маёнткаў, царкоўныя дамы і іншыя пабудовы, якія засталіся нескарыстанымі пасьля рэвалюцыі, дык зараз аб гэтым няма чаго і думаць—усё мала-мальскі магчымае ўжо выкарыстана, прыстасавана да тых ці іншых патрэб, засталіся хіба дзе-небудзь толькі вялізарныя разбураныя палацы, на адрамантаваньне якіх патрэбны дзесяткі тысяч рублёў; гэтых палацаў нямнога і ў бліжэйшыя часы і яны будуць выкарыстаны.

Справа пабудовы школьных будынкаў становіцца ва ўсей вастраце, і да гэтай справы трэба прыкаваць увагу ўсяго грамадзянства. Наколькі востра стаіць гэта пытаньне, відаць хаця-бы з наступных лічбаў: усяго ў БССР маецца 5.476 школ сацыяльнага выхаваньня, з іх маюць уласныя будынкі толькі 59 проц. школ, усе іншыя зьмяшчаюцца ў наёмных памяшканьнях. Я ўжо не гавару аб тым, што частка школ працуе ў 2-3 зьмены, што не дае ніякай магчымасьці весьці правільна заняткі. Усякі ведае, якія ў нас наёмныя памяшканьні, асабліва на вёсцы: гэта звычайныя сялянскія хаты з невялікай плошчай, часта з землянымі падлогамі, а іншы раз і з гаспадаром гэтай хаты, які тут-жа ў школе жыве. Дзеці праводзяць у такой школе каля 6 гадзін у дзень, у колькасьці каля 40 чалавек; ясная справа, што ня можа быць і гутаркі аб правільным вядзеньні заняткаў у такіх школах і тым больш аб здароўі дзяцей.

Выхадам з гэтага становішча зьяўляецца пабудова школьных будынкаў згодна пляну ўсеагульнага абавязковага навучаньня. Пабудова школьных будынкаў ня можа ніякім чынам адставаць ад вызначанага пляну, бо самы плян ужо прадбачыць большы тэрмін для пабудовы школьных будынкаў, чым для адчыненьня школьных камплектаў *); у 1934-35 навучальным годзе школ будзе адчынена столькі, што яны зьмесьцяць усіх дзяцей рэспублікі ад 8 да 12 год, а будынкаў для гэтых школ па пляну мяркуецца пабудаваць толькі для 50 проц.; такім чынам, нават тады, як будзе ўведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне, значная частка школ будзе зьмяшчацца ў наёмных памяшканьнях.

Гэта так будзе тады, калі будзе выконвацца цалкам той плян, які зложаны па ўсеагульнаму абавязковаму навучаньню. Дасьледаваньне Рабоча-Сялянскай Інспэкцыяй і матар'ялы, якія ёсьць у Народным Камісарыяце Асьветы, паказваюць, што нават гэты будаўнічы плян—мінімум, расьцягнуты, пачынаючы з 1925-6 г., на 15 год, ня выконваецца, і перад намі стаіць вялікая небясьпека зрыву пляну ўсеагульнага абавязковага навучаньня. За два апошнія гады правядзеньня пляну ўсеагульнага абавязковага навучаньня адчынена школьных камплектаў 1.211 (106 проц. пляну), пабудавана школьных будынкаў па пляну 120 і пачата пабудовай, але не закончаны 71 (65 проц. пляну пабудовы школьных будынкаў). Асноўная прычына адставаньня пабудовы школьных будынкаў ад будаўнічага пляну—гэта неадпаведнасьць фактычнаму запатрабаваньню водпуску сродкаў на пабудову аднаго школьнага будынку. Па бюджэту адпускаецца на пабудову аднэй двухкамплектавай (з двумя настаўнікамі) школы пры дармовым водпуску лесу 6.000 руб., а практыка паказала, што сярэдні кошт пабудовы аднэй такой школы, з дапамогай насельніцтва ў падвозцы матар'ялаў, раўняецца 8-9 тысячам рублёў (таксама бяз кошту лесу). Гэта адно ўжо зразу зьмяншае лік пабудаваных школьных будынкаў амаль не на 30 проц.; наглядаюцца выпадкі скарыстоўваньня сродкаў не па прамому прызначэньню. Але горш за ўсё тое, што маецца шэраг выпадкаў, як паказалі матар'ялы РСІ і НКА, што нават пабудаваныя школы не заўсёды адпавядаюць свайму прызначэньню. Будуюцца яны без належнага тэхнічнага нагляду, без належнага кантролю з боку мясцовых органаў улады і шырокіх працоўных мас. Ёсьць прыкрыя недапусьцімыя выпадкі, аб якіх трэба крычаць; так, напрыклад, у Вацлаўскай нядаўна пабудаванай школе

---

*) Школьным камплектам лічыцца 40 ч. дзяцей на аднаго настаўніка.

(Полаччына), надворная сьцяна ўжо выгнулася, унутраныя сьценкі зігзагападобныя; бэлькі, на якіх трымаецца столь, ня ўзяты на балты, і столь дзеля гэтага нятрывалая. У Смоліцкай школе (Быхаўскі район) бэлькі падлогі ня ўрублены ў сьцены, сьцены знадворку абчэсаны ня кругла і не абглёваны; надворныя капітальныя сьцены на 50 проц. яловыя, а ўнутраныя—выключна сасновыя і інш.

Гэтыя выпадкі, выяўленыя толькі ў зьвязку з дасьледаваньнем школьнага будаўніцтва, сьведчаць, што наўкол пытаньня школьнага будаўніцтва не завострана грамадзкая думка. Чаму аб гэтых выпадках невядома было НКАсьветы, чаму аб іх ня пісалася ў газэтах. Калі будуецца Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, ці якая-небудзь фабрыка, альбо завод, дык гэтае будаўніцтва знаходзіцца пад самым пільным кантролем як шырокіх працоўных мас, так і органаў улады.

**Пабудова школы на сяле мае такое-ж значэньне для сяла, як пабудова Бел. Дзярж. Унівэрсытэту, альбо Асінабуду, для ўсёй Беларусі; пабудова школы на сяле,—гэта цэлае здарэньне, якое адбываецца раз у дзесяткі год; пабудова школы павінна быць пад такім самым пільным кантролем сялянства і мясцовых органаў, пад якім знаходзяцца Белдзяржбуд, Бел. Дзярж. Унівэрсытэт.** Сялянства і ўсе працоўныя павінны патрабаваць ад мясцовых органаў улады, дзе школа будуецца альбо мяркуецца да пабудовы; колькі сродкаў даецца на пабудову; наглядаць, як яна будуецца, сачыць за пабудовай, жорстка крытыкаваць кожны няправідловы крок у напрамку пабудовы на сваіх сходах, у саветах, у друку.

**Я заклікаю ўсіх селькораў, настаўнікаў, усю працоўную інтэлігенцыю на сяле высьвятляць у друку ўсе недахопы школьнага будаўніцтва; узяць школьнае будаўніцтва пад самы шырокі і пільны кантроль з боку ўсяго працоўнага насельніцтва.** Толькі пры гэткіх умовах мы будзем пэўны ў тым, што буйных памылак у школьным будаўніцтве мы не дапусьцім.

**А. Баліцкі.**

# „Дзейнасьць“ Касухіна ў галіне народнае асьветы.

**(Мазыршчына, Калінкавіцкі район).**

Для поўнага абхопу школ інспэктарскім аглядам, для правільнага мэтадычнага кіраўніцтва школамі, а таксама і наогул для вядзеньня сыстэматычнага інспэктарскага нагляду за працаю і жыцьцём школ району неабходна, каб раінспэктар быў у меншай залежнасьці ад загадаў і ўласнае волі старшыні РВК.

Каб раінспэктар мог сам, як былы па прафэсіі настаўнік, больш выявіць уласнае ініцыятывы, больш ажывіць працу школ; каб ён мог даць ініцыятыву месцам таксама выявіць сваю карысную самадзейнасьць,—для гэтага неабходна, каб раінспэктар меў час вывучаць і палепшыць працу і жыцьцё школ свайго району, а таксама, каб ён меў час і для падвышэньня сваёй кваліфікацыі.

Але-ж ёсьць у нас моманты, што раінспэктар толькі існуе пры РВК для формы, як кажуць, займае інспэктарскае крэсла і падпісвае ня ім складзеныя загады, або калі едзе на район для агляду школ, дык, мо' на падставе таго, што ён член РВК, так загружан рознымі кампаніямі і даручэньнямі, што агляд школ ужо стаіць на апошнім месцы, або і зусім не магчымы.

Ды і гэта яшчэ ня ўся бяда; ёсьць моманты самага злоснага прыдушэньня ўсякае ўласнае ініцыятывы ў працы раінспэктара, бюрократычнага камандаваньня раінспэктарам і наогул напляваўцельскіх адносін да асобы раінспэктара з боку старшыні РВК.

Яскравым прыкладам гэтага можа служыць Калінкавіцкі район, на Мазыршчыне, дзе раінспэктар, настаўніца Б., знаходзіцца ў поўнай залежнасьці і поўным загоне ў старшыні РВК т. Касухіна у той час, калі яна можа самастойна выконваць свае абавязкі. У выніку гэтага ў Калінкавіцкім районе ў працы школ пайшло такое бязладзьдзе, ад якога ня толькі баліць галава раінспэктару, кожнаму загадчыку школы, але-ж павінна балець і яшчэ каму гэта належыць. Бо гэта ня праца, а толькі адно непаразуменьне. Для доказу вышэйаднзначанага вось факты, якія крычаць за вызваленьне раінспэктара ад камандаваньня старшыні.

Пераводы і назначэньні настаўнікаў улетку 1927 г. рабіліся выключна па загаду старшыні, калі раінспэктара зусім ня было. Старшыня па свайму жаданьню знаходзіў сярод настаўнікаў палітычна вытрыманых і палітычна ня вытрыманых, таксама знаходзіў сярод настаўнікаў любімчыкаў і любіміц і нялюбімчыкаў і нялюбіміц.

Кідаў настаўнікаў, як яму гэта падабалася. Шмат каго выкінуў зусім з Калінкавіцкага району, а шмат каго пасадзіў зусім туды, куды ня сьлед. Сямейных настаўніка і настаўніцу з малымі дзецьмі пазаганяў аднаго ад другога вёрст на 60.

Районная камісія па камплектаваньню школ таксама поўнасьцю знаходзілася пад уплывам старшыні. Бо вырашыць пытаньне—чаму па думцы старшыні, той ці іншы настаўнік палітычна нявытрыманы, ніхто і не падумаў.

Бязумоўна, ніхто ня можа адмаўляць таго, што сярод настаўнікаў яшчэ ёсьць людзі палітычна нявытрыманыя, але-ж мы павінны ведаць і тое, што ёсьць палітычна нявытрыманае кола грамадзянства, сярод якога працуе настаўнік, або ёсьць і палітычна нявытрыманае кіраўніцтва і адносіны да настаўніка, як з боку районных, так і з боку мясцовых устаноў і служачых асоб, што і адбіваецца на аўтарытэце і працы настаўніка. Можа тая ці іншая настаўніца прызнана палітычна нявытрыманай за тое, што не адказвала ўзаемнасьцю ў амурных справах районным і сельсавецкім працаўнікам. Або настаўнік за тое, што не паплёўся ў хвасьце за мясцовымі заможнікамі і рознага роду спэкулянтамі.

Другі момант шкоднага ўмешваньня старшыні ў справы школьнага жыцьця сьведчыць аб напляваўцельскіх адносінах старшыні да асобы раінспэктара. Калінкавіцкі старшыня (зразумела ў кавычках, бо такіх паводзін старшынь, я ўпэўнен, што ва ўсёй Беларусі няма) па району склаў сетку сваіх улюбёнцаў. І вось, напрыклад, такі момант: настаўніца 2-хкамплектные школы гораду заяўляе ў вучэбны час свайму загадчыку школы—я сёньня еду ў район (Калінкавічы).—Па якіх такіх спра-

вах?—пытаецца зацікаўлены загадчык школы.

— Я маю водпуск на сем дзён.

— Ад каго?

— Ад Касухіна.

— А чаму не ад райінспэктара Б.?

— А што мне райінспэктар, кіраўнік райёну—Касухін, вось ён і даў мне водпуск, а на такіх райінспэктараў Касухін пляваць хацеў, яны яго баяцца, як агню.

— А дзе ваша паперка аб водпуску ад старшыні?—дамагаецца загадчык школы.

— А навошта гэта вам? Я еду, ды і толькі. Мяне выклікае Касухін для асабістых тэрміновых перамоў. І аб гэтым я ні перад кім аб'ясьняцца ня буду. Яшчэ чаго не хапала!

Сабралася, кінула камплект вучняў і паехала. Што-ж, нічога ня зробіш. Пнецца загадчык школы, бегае з аднаго пакою ў другі, займаецца з двума камплектамі. А настаўніца варочаецца толькі на трэці дзень, і гэта ня раз і ня два, а часта такія зьявішчы.

А потым на райпэдканфэрэнцыі райінспэктар і дакладвае:

— Таварышы, трэба нам рашуча павесьці барацьбу з прагуламі, якія носяць масавы характар. Кожны вучэбны дзень можна бачыць па некалькі вясковых настаўнікаў у горадзе Калінкавічах бяз усякіх асаблівых прычын і г. д., і г. д.

Але-ж яшчэ ня ўся бяда ў гэтым—справа пагоршваецца яшчэ тым, што гэткая блізкасьць да старшыні некаторых асоб з настаўніц надта шкодна адбіваецца на працы пэдкалектываў на мясцох. Гэтыя «асобы», апроч таго, што высока наплявацельскі адносяцца да працы і заданьняў пэдкалектыву, але-ж яшчэ імкнуцца сарваць працу пэдкамітэту. Бо яны не адчуваюць ні перад кім адказнасьці. Старшыня—галава райёну—вось і ўвесь сказ. А там на ўсё і на ўсіх наплявваць! Так вось, хіба гэта не наплявацельскія адносіны «старшыні» да асобы райінспэктара.

Што тут яшчэ больш трэба гаварыць?

Старшыня Касухін яшчэ таксама актыўна ўздымае сельска-гаспадарчы ўхіл школ. У мінулым годзе былі ўтвораны са школамі на карыстаньне зямельнымі і іншымі с.-г. значэньня ўгодзьдзямі дагаворы на якіх, згодна пастановы НКЗ і СНК БССР, вызначана, што частка прыбытку гэтых угодзьдзяў павінна ісьці на карысьць школы, а частка за апрацоўку і догляд—і настаўнікам. Але-ж куды там. Калі настаўнік зьвяртаецца да «старшыні».—Як будзе, што я павінен атрымаць за працу ў саюзе і як гэта аформіць?

— А што табе трэба? Ты працаваў, то і яблыкі еў...—адказвае старшыня, і вось табе і ўсё.

Значыць, калі настаўнік даглядвае і апрацоўвае сад плошчай у гэктар і зьеў тры пуды яблык, дык вось і хопіць з яго.

А дзе ўмова? А дзе розьніца паміж тым настаўнікам, які лета з лапатаю ў руках працуе і тым, які скончыў навучальны год і паехаў на ўсё лета гуляць? Хто пры гэткіх умовах будзе паляпшаць і пашыраць плошчу школьных садоў, гародаў і г. д., або закладваць новыя, там дзе іх няма. Хто пры такіх умовах будзе затрачваць сродкі і працу на авось, на міласьць старшыні або, зьняўшы шапку, прасіць школьны савет, або сялянскі сход—зацьвердзіце мне, браткі, за мае выдаткі і працу ў садзе рублікаў у трыццаць?

А з усяго гэтага можна бачыць, што за 10 год савецкай школай па ўсяму райёну не закладзена ніводнага саду.

Цяпер—як старшыня Касухін паставіў пытаньне з лікпунктамі? Адразу адчыніў пры кожнай школе райёну лікпункт і плаціць па 15 руб. у месяц настаўнікам за працу, а потым, калі разгарнулася праца на лікпунктах, бах—загад — **зачыніць усе лікпункты з 1-га сакавіка**. Зрабіць выпускі і сьпісы няпісьменных, скончыўшых лікпунты прысласць у РВК, бо больш няма чым плаціць за працу на лікпунктах. А каго выпусьціць, калі толькі яшчэ лікпункты раскачаліся? Хіба няпісьменных запісаць пісьменнымі? Хіба гэта не галавацяпства? Хто адчыняе цяпер пры кожнай школе лікпункт, сыпле грошы як папала?

Або вось такая справа—загад:—з 1-га красавіка ўстрымацца і не рабіць ніякіх гаспадарчых выдаткаў па школах, бо таксама іх ніхто ня будзе аплачваць. Значыць —настаўнік, ці настаўніца, самі мыйце і падлогі ў клясах, каліце дровы, паліце печы. А калі паб'юцца вокны ў школе, або што іншае здарыцца,—дык прадай сьвіту і папраў.

Або яшчэ: на 1-ае паўгодзьдзе 1927-28 навучальнага году райвыканкомам былі закуплены і раздадзены школам пісьмовыя прылады (сшыткі, пер'я) і было заяўлена, што на 2-е паўгодзьдзе будзе закуплена новая партыя. Такім чынам, школы ня думалі аб будучым і выкарысталі ўвесь запас 1-га паўгодзьдзя, а калі прыйшло 2-ое паўгодзьдзе--ніякіх пісьмовых прыладаў няма. Сродкі ў РВК на гэтую справу адсутнічаюць. Значыць, жывіце і працуйце як хочаце. Добра, калі вучням купляюць пісьмовыя прылады бацькі, а калі не, дык выходзіць, што настаўнік купляй за свой кошт, калі хочаш, каб праца твае1 школы чаго небудзь была варта.

Словам, усюды старшыня, а інспэктара і ня відаць, бо старшыня райінспэктару нарасьветы ўсучыць у рукі якія там колечы лісты па сельскагаспадарчаму падатку, ці па страхоўцы, ды і крычыць: язжай у вёску вёрст за 25-40 і глядзі, каб мне на заўтра правяла сялянскія сходы і лісты ўручыла. А калі райінспэктар (жанчына) просіць у старшыні даць для паездкі райвыканкомаўскага каня, дык ён сярдзіта:

— Якога там яшчэ каня, язжай на чым хочаш, а мне каб справу зрабіла. А ня зробіш, дык тады пагаворым! А цяпер ужо вось наш райён жыве бяз усякага інспэктара. У РВК адны кажуць, што ляжыць у Мазырскай бальніцы хворая, а іншыя, што зусім ня хоча ехаць на працу, бо ў яе не хапае сіл усё вытрымаць.

У сувязі з гэтым у школах стала яшчэ больш непаразуменьняў, бо цяпер настаўніку з райёну няма ў РВК да каго зьвярнуцца за добраю службоваю парадаю. Прыедзеш да старшыні ў яго габінэт, а ён будзе глядзець з паўгадзіны ў газэту, а настаўнік будзе, прайшоўшы вёрст 25, стаяць перад ім на выцяжку і тут-жа стаіць больш дзесятку крэслаў, але прапановы сядайце не пачуеш, бо для яго нізка, калі ў яго габінэт прыдзе вясковы настаўнік. А калі-небудзь то і «мат» пачуеш.

Вывадаў я ніякіх не раблю. Няхай іх зробіць той, каму гэта належыць.

**П.**

# Дзецям вясковага асьветніка трэба дапамагчы вучыцца.

(У парадку абгаварэньня).

Вялікая армія асьветнікаў наогул, і настаўніцтва пераважна, аб'яднаецца саюзам працасьветы. Калі паглядзець На Белпрацасьветы, то ўбачым, што на долю аднэй Беларусі прыходзіцца больш двух дзесяткаў тысяч сяброў.

Гэта армія культурнікаў, бязумоўна, моцная, значыць ёсьць з кім разгарнуць працу.

Нават з матар'яльнага боку наша ЦП ня зусім беднае, калі прыняць пад увагу, што сяброўскія адлікі складаюць 2 проц. ўсяго заробку кожнага асьветніка.

Праўда, з 2 проц. адлікаў ЦП уносіць часткова ў ЦСПСБ і ЦК нашага саюзу, але-ж і пасьля ўсіх адлікаў застаецца досыць значная сума грошай, якая часткова трацiцца на ўтрыманьне апарату—ЦП, акрпрауленьняў, групкомаў і МК, а часткова на культпатрэбы асьветнікаў, праз арганізацыю дамоў асьветы, бібліятэк, садоў, пляцовак і іншыя грамадзка-карысныя ўстановы.

Само сабою зразумела, што гэта справа добрая, патрэбная і карысная і дзеля асьветнікаў, і дзеля дзяржавы, і грамадзкасьці, калі ўтрымліваемыя ЦП саюзу культурныя ўстановы працуюць як сьлед. Але, памойму, ёсьць яшчэ шэраг галін, у бок якіх пашырыць прафсаюзную працу было-б і патрэбна і мэтазгодна.

Возьмем, напрыклад, сям'ю настаўніка—выхаваньне яго дзяцей і іх асьвету—і мы ўбачым, што ў гэтым напрамку дапамогі настаўнік ад саюзу амаль што ні атрымлівае, а яна для яго надзвычайна патрэбная. Гэта датычыцца пераважна настаўніка вёскі.

Бязумоўна, значная частка вясковага настаўніцтва ня заўжды мае магчымасьць даць сваім дзецям ня толькі вышэйшую асьвету, але і закончыць сярэднюю. Справа ў тым, што нават сярэднюю асьвету можна атрымаць у горадзе, або ў лепшым выпадку ў мястэчку, дзе патрэбна наняць кватэру, даць абутак, адзеньне і пракарміць дзіця, на што патрэбна ў самым танным месцы 15-20 руб. штомесячна, а ў большых гарадох гэтая лічба значна павялічыцца. Зразумела, што настаўнік з сям'ёю, атрымаўшы ў месяц 40 руб., 50 проц. пэнсіі аддаць сыну або дачцы на старану ня зможа.

Такім чынам, з гэтага боку значнай часткі нашага настаўніцтва становішча стала трагічным.

Настаўніцтва імкнецца ў гарады, як культурныя асяродкі, што ўдаецца толькі адзінкам, а маса застаецца на месцы пры разбітым карыце.

Мне здаецца, што ў гэтым напрамку ЦП нашага саюзу магло-б зрабіць шмат карыснага і дапамагчы сваім сябром, калі над гэтым пытаньнем падумаць як сьлед. Можа і ня зусім добра браць прыклады са старога, але калі там хоць што-небудзь было карыснага, то гэтае карыснае можна запазычыць. Я ўпэўнен у тым, што яшчэ шмат хто з настаўніцтва быўшых пачатковых школ у дарэвалюцыйныя часы памятуюць аб «Обществе взаимопомощи учащим и учившим в народных школах». Я напомню аб ім па Менскай губ. Гэтая ўбогая, напалову казённая, арганізацыя, на чале якое стаяў дырэктар нар. вучылішч і іншыя казённыя асобы, зьбірала з сваіх сяброў менш 1 проц. пэнсіі—3 р. у год, а ў другіх губ. сяброўскі ўзнос быў яшчэ меншы 1-2 руб., і гэтым мела магчымасьць трымаць у Менску два інтэрнаты для дзяцей настаўнікаў—жаночы і мужчынскі, разьлічаныя да 50 асоб кожны, з належным абсталяваньнем і абслугоўваньнем, на чале якіх стаялі настаўнікі-педагогі. Апрача гэтага «Общ. Взаимопомощи» на працягу году выдавала грашовую дапамогу сваім сябром, арганізоўвала экскурсіі як па Расеі, так і заграніцу, выдавала ссуды, стыпэндыі і іншую дапамогу.

Зразумела, што інтэрнаты—справа добрая і дапамагала вясковаму настаўніцтву ў асьвеце дзяцей.

Поруч з гэтым «Общества» наймалі памяшканьні дзеля прыяжджаючых у горад настаўнікаў, якім давалі бясплатна начлег на працягу трох дзён дарэмна.

Я прывёў прыклад не дзеля таго, каб паказаць, што было вельмі добра раней і дрэнна з арганізацыйнага боку цяпер, а каб сказаць, што з магчымага і патрэбнага—ня ўсё зроблена. Такая моцная арганізацыя, як саюз Працасьветы, ня можа раўняцца ні з якімі былымі „обществами", і зразумела, што і дапамога настаўніцтву і ўсім сваім сябром у сэнсе дапамогі ў навучаньні і выхаваньні дзяцей павінна быць больш рэальная. А дзеля гэтага пры абгаварэньні пляну працы на другое паўгодзьдзе неабходна паставіць пытаньне аб асьвеце і выхаваньні дзяцей сельскага асьветніка, памятаючы, што той, хто выхоўвае дзесяткі і соткі іншых дзяцей, мае права на выхаваньне і адукацыю сваіх.

**Масюкевіч.**

# Хібы ў школьнай справе.

## Прызначэньне настаўнікаў у школы без памяшканьня.

Пры адчыненьні новых школ, як агульнае зьявішча, да часу заняткаў ёсьць толькі настаўнік і дзеці, а школьнага памяшканьня, адпаведнага абсталяваньня і падручнікаў няма. Заняткі ў такіх школах пачынаюцца са спазьненьнем на 1—2 месяцы. Часам некаторым настаўнікам прыходзілася сумна і былі выпадкі, калі яны зварочваліся да інспэктароў аб прызначэньні іх у школу, якая працуе. Вучоту такіх выпадкаў няма, але ў прыватных гутарках з інспэктарамі і настаўнікамі прышлося высьветліць, што такіх зьявішч шмат—прычынай гэтаму зьяўляюцца: несваечасовы водпуск сродкаў на нова адчыняемыя школы, а таксама і адсутнасьць некаторай прадугледжанасьці з боку органаў НКА.

## Немэтазгодна разьмеркаваньне камплектаў.

Некаторыя РВК пры адчыненьні дадатковых камплектаў немэтазгодна іх разьмяркоўваюць. Шмат яшчэ захавалася такіх школ, дзе на аднаго настаўніка прыходзіцца 80—90 вучняў, адначасова ў тым-жа раёне ёсьць школы, у якіх на гэты лік вучняў—2-3 настаўнікі (Вацлава-Полаччына).

## Раённыя інспэктары НА не наведваюць школ.

Большасьць часу райінспэктары аддаюць працы не па сваёй галіне, за гэтым кіраваць культасьветнай працай ім някалі. Ёсьць раёны, дзе інспэктарам абсьледавана толькі 6—9—15 школ. У такіх раёнах на настаўніцкіх канфэрэнцыях ня ставілася ні адно вытворчае пытаньне.

Недастатковасьць інспэктарскага кіраваньня кампэнсуецца раймэдбюро, але гэтага мала, трэба, каб інспэктар ведаў жыцьцё школ і працу ў сваім районе.

## Насельніцтва дапамагае школе,—калі настаўнік добра працуе.

Па ініцыятыве настаўніка (Шклоўскі раён, вёска Зароўцы) т. Карначэнка, Шклоўскім РВК быў дан будынак (стара-шклоўскага папа). Насельніцтва вёсак: Зароўцы, Трошы і Нізаўцоў перавезьлі гэты будынак і нанялі плотнікаў для пабудовы. Селяне ўзялі на сябе абавязак заплаціць грошай 400 руб. У іх цяпер свая школа з 2 клясамі і кватэрай настаўніка. Так, з дапамогай РВК і сельсавету па ініцыятыве настаўніка, і там дзе насельніцтва дапамагае ўраду, растуць школы. Такіх прыкладаў па Шклоўскаму і іншых раёнах БССР многа, але яшчэ ёсьць месцы, дзе насельніцтва ня хоча дапамагчы ў той час, калі дзяржава пачынае будаваць у іх школу. Шмат выпадкаў, калі насельніцтва адмаўляецца даставіць лес да месца пабудовы школы—(Княжыцы, Шклоўск. РВК).

## Неабходна будаваць надворныя будынкі пры школах.

У большасьці школьныя будынкі будуюцца за вёскай і стаяць сіратлівай. Вакол іх раскіданы дровы. Ніякай загарожы няма. Няма месца для дроў і іншых патрэбных будынкаў. Гэтыя будынкі не прадугледжаны па каштарысу, а аб іх толькі гаворыцца ў наказах па будаўніцтву школ.

## Сьвежае паветра і адпаведнае абсталяваньне зьнішчыць хворасьць дзяцей.

У артыкуле „Сав. Бел." № 87 указывалася, што неадпаведнасьць абсталяваньня кляснай мэбляй школы, недахоп плошчы, занятгі ў тры зьмены прыводзяць да паталёгічных зьявішч. Прыводжу лічбы:

Урачэбны агляд дзяцей школьнікаў па гор. Полацку паказвае, што з 696 абсьледаваных дзяцей школьнікаў здаровых аказалася 96, ня высьветлена 80, хворых сухотамі—520 (весткі атрыманы ад інспэктара). З гэтых дзяцей 213 з актыўным працэсам;

II сяміг. 216 вуч.; з іх здар. 19,5 пр., сух. 84,5 проц. VI—VII сяміг. 327 вуч. з іх здар. 31,5; сух. 68,5 пр. VII сяміг. 153 вуч. з іх здар. 21,5; сух. 79 пр.

У чым тут прычына?

— Школьныя ўмовы. Акрамя таго, кватэрнае становішча кепскае, школьнік прыходзіць у школу, дзе ўжо займаліся 2 зьмены. Той-жа інспэктар заявіў, што, акрамя гэтага, шмат дзяцей з крывымі пазваночнікамі, як вынік «мэтазгоднасьці» скарыстоўваньня мэблі—над гэтым павінен падумаць настаўнік, але ў першую чаргу гарсаветы, а на мясцох—РВК. Ёсьць шмат школ, дзе няма ні аднае лаўкі, каб пасадзіць вучняў малодшага ўзросту (Высокае, Шклоўск. раёну).

## Сыстэматычнага агляду дзяцей урачамі на вёсцы няма.

Здаецца, што ўсе гэтыя пытаньні ня новыя. Яны ўсім вядомы. Але, як недахопы былі і будуць, калі на школьную справу будзе зварачвацца такая ўвага, як дагэтуль.

Адпаведная пастанова НКРСІ (гл. «С. Б.» ад 15 мая 1928 г. № 110) па галіне школьнага будаўніцтва будзе папоўнена прапановамі наогул па школьнай справы, бо ў сучасны момант НКРСІ праводзіць кантрольную, абсьледвацельскую працу па ажыцьцяўленьню пляну ўсеагульнага навучаньня і дырэктыў партыі і ураду па школьнай справе.

Матар'ялы з месц ужо паступаюць. Акрамя працы, праведзенай на мясцох, НКРСІ будзе падрабязна абсьледваны 2 акругі.

А. Мікалаеў.

# Антырэлігійная праца хаты-чытальні ўлетку.

Антырэлігійная прапаганда, як і ўся праца хаты-чытальні, павінна быць зьвязана з штодзеннымі практычнымі патрэбамі сялян, павінна дапамагаць Савецкай уладзе і камуністычнай партыі ў справе падняцьця сельскае гаспадаркі. Па галіне антырэлігійнае прапаганды ў хаце-чытальні таксама, як і па іншых галінах прапаганды, трэба больш ужываць нагляднасьці: скарыстаць мясцовыя факты, даступныя для праверкі сялян, паказваць розныя вопыты і г. д.

Антырэлігійная прапаганда павінна праводзіцца безперапынна і стала, а адгэтуль ясна, што хатніку ў дапамогу трэба прыцягнуць усіх мясцовых бязбожнікаў і актыў, зрабіўшы іх сталымі дапаможнікамі ў справе антырэлігійнае прапаганды.

Наперш, у летнія месяцы антырэлігійную прапаганду трэба ўвязваць з працай сельска-гаспадарчага гуртка. Усе дасягненьні гэтага гуртка на паказальным вучастку і ў гаспадарках яго сяброў трэба паказаць веруючым сялянам, пераконваючы апошніх, што ні бог, ні сьвятыя ня маюць уплыву на гаспадарку, а што ўраджай можна павялічыць толькі сваімі сіламі, пры дапамозе агранамічнае навукі.

Для гэтага лепш усяго наладжваць экскурсіі ў камуны, саўхозы, паказальныя вучасткі—дзе гаспадарка вядзецца культурна. Усе сельска-гаспадарчыя экскурсіі і экскурсіі ў прыроду ў поўнай меры можна скарыстоўваць з мэтамі антырэлігійнае прапаганды.

З другіх відаў антырэлігійнай прапаганды для лета трэба лічыць—галосныя чыткі антырэлігійнае літаратуры (часоп. „Антырэлігіозьнік", «Бязбожнік», газэта «Бязбожнік» і інш.), гутаркі, а дзе магчыма і лекцыі. Пры гэтым лепш усяго спачатку пачынаць з разьясьненьня сялянству зьяў прыроды, паступова пераходзячы да больш складаных пытаньняў. Трэба расталкаваць селяніну ўсю шкоду рэлігіі для працоўных, растлумачыць, чые інтарэсы абараняюць «сьвятыя айцы», ускрываючы такім чынам клясавую сутнасьць рэлігіі. Трэба паказаць на прыкладах з мясцовага жыцьця на тую шкоду, якую прыносіць рэлігія і забабоны нашаму селяніну. А прыкладаў такіх на вёсцы маецца шмат.

Пры гэтым трэба паказваць на шматлікія прыклады гаспадарчае выгады ад працы ў рэлігійныя сьвяты, альбо на тыя гаспадарчыя страты, якія атрымліваюцца гаспадаркай ад прагулаў і п'янстваў у гэтыя дні.

Трэба ў хаце-чытальні скамплектаваць бібліятэчку папулярнае антырэлігійнае літаратуры, наладжваць выстаўку яе і прасоўваць у гушчы сялян.

У сьвяточныя дні хату-чытальню адчыняць з раніцы, узмацніўшы ў гэты час справачную працу, чытку газэт і г. л., а гэтым самым мы селяніна прыцягнем у хату-чытальню замест царквы.

Таксама трэба належным чынам абсталяваць куток бязбожніка. Па галіне мастацкае працы трэба скарыстаўваць адпаведныя п'есы, інсцэніроўкі, робячы пастаноўкі іх на вольным паветры, каб прыцягнуць як мага больш сялян. Наладжваць чытку мастацкае літаратуры, скарыстоўваючы апавяданьні, вершы, байкі на антырэлігійныя тэмы.

М.

# Палітасьветная праца ў летні час.

У шмат працаўнікоў склалася думка, што праца сярод сялянства летам наогул немагчыма, што лета ў працы—мёртвы сэзон.

Летні час, у сувязі з асаблівасьцямі сельска-гаспадарчай працы селяніна і яго жыцьцём, патрабуе прыстасаваньня палітасьветпрацы да гэтых умоў. Палітасьветпраца павінна быць гібкаю і прыстасаванаю да тэрміну і месца. Вядомая рэч, што падганяць сялянства да якіх-небудзь застыўшых форм палітасьветпрацы ні ў якім разе ня трэба, гэта будзе пагрозай зрыву працы. Напрыклад, у практыцы працы некаторых хатнікаў можна знайсьці такіх, якія прабуюць весьці летнюю працу прыёмамі зімовага пэрыяду. Неабходна ў гэтых выпадках памятаць заўсёды думку тав. Леніна, што посьпех усякай працы залежыць ад уменьня ў кожны момант знайсьці тое зьвяно, якое дае магчымасьць аўладаць усёй працай. Гэта значыць, што ў палітасьветпрацы зьвеньня ў зімовы і летні час будуць не аднолькавымі. Перанясеньне ва ўмовы летняга пэрыяду зімовых прыёмаў працы зьяўляецца якраз паказчыкам няправільнага падыходу да працы, няўменьне знайсьці неабходныя практычныя меры да летніх умоў. Адгэтуль зьяўляецца і неабходнасьць для ўсіх райпалітасьветаў правесьці сярод палітасьветпрацаўнікоў шырокую падрыхтоўчую працу па расплумачэньню ім задач летняе працы і калектыўнага абгаварэньня галоўных задач.

Гэту задачу магчыма будзе выканаць шляхам скліканьня нарад палітасьветпрацаўнікоў, на якіх, акрамя абгаварэньня зьместу форм і мэтадаў працы ў летні час, неабходна падагуліць і вынікі зімовае працы. Летні час на вёсцы ўлетку павялічвае рабочы дзень селяніна, вынікам чаго зьяўляецца: немагчымасьць для селяніна адклікацца на пытаньні, ня маючыя сувязі з яго непасрэднымі вытворчымі інтарэсамі. Таму прыблізіць палітасьветпрацу да абслугоўваньня запытаньняў і інтарэсаў селяніна, якія ўзьнікаюць у працягу яго летняй працы, інакш кажучы, неабходна выходзіць з мясцовых і сэзонных умоў. Неабходна за лік скарачэньня вучобы арганізоўваць разумны адпачынак для селяніна. Павялічэньне ў хатах-чытальнях элемэнтаў забаў і гульняў за лік элемэнтаў вучобы, шырокае скарыстаньне сьвят і днёў адпачынку для арганізацыі масавых вулічных гульняў і г. д. Па магчымасьці, вынясеньне ўсяе працы хаты-чытальні па-за сьцены, на вольнае паветра.

Галоўным зьместам працы ў летні час павінна быць: праца сярод батрацтва—(у летні час асабліва востра праўляецца клясавае расслаеньне вёскі эксплёатацыі батрацтва, кабальныя суды і зьдзелкі), тут галоўная задача палітасьветчыка—растлумачыць батраку яскрава пытаньні аховы працы і правіл аб найме рабочае сілы, яскрава растлумачыць палітыку ўлады ў адносінах да кулака. Хатнік павінен усю працу праводзіць пры належнай дапамозе, у поўным кантакце з саюзам Рабземлесу.

**Праца сярод сялянак:** правядзеньне працы па папулярызацыі ясьляў і пляцовак, арганізацыя кіраўніцтва ясьлямі, арганізацыя адпачынку, гутаркі ў сьвяточныя дні па пытаньнях, маючых сувязь з вясеньня-летняй працай сялянкі (гародніцтва, птушкаводзтва, жывёлагадоўлю, захоўваньне прадуктаў і г. д.).

**Праца сярод моладзі:** арганізацыя спартыўных пляцовак, гульняў, фізкультурныя спаборніцтвы, правядзеньне гутарак, дакладаў на вольным паветры па палітычным, бытавым і прыроданавуковым тэмам, уцягненьне ў абслугоўваньне масавых гульняў, разумнага адпачынку ў сьвяточныя дні, экскурсіі ў лес з гармонікай, сьпевамі і гульнямі. Правядзеньне вайсковай прапаганды ўвязваецца з спортам і фізкультурай.

**Даведчая праца:** пашырэньне масавых форм даведчай працы за кошт індывідуальнай, арганізацыя ў сьвяточныя дні вечароў пытаньняў і адказаў на вольным паветры. Падабраць тэмы для вечароў, прыстасоўваючы іх да сельска-гаспадарчага календара. Павялічыць лік вечароў пытаньняў і адказаў па аграномічным пытаньням. Даведчыя сталы павінны адчыняцца ў дні адпачынку селяніна.

Шырокае сыстэматычнае тлумачэньне сялянам маючыхся дырэктыў на новы год па сельска-гаспадарчаму падатку, агітацыі сярод сялян да падрыхтоўкі да дню ўраджаю і сельска-гаспадарчай раённай ці акруговай выстаўкі.

**Кампаніі** павінны быць праведзены наступныя: Канстытуцыя СССР. Гадавіна аслабаненьня Беларусі ад белапалякаў. Гадавіна КІМ-а і г. д.

**Праца з газэтай:** арганізацыя галосных чытак газэт у вячэрнія часы і ў мясцох накапленьня сялян у дні адпачынку. Вынясеньне чытальні з хаты ў сад, ці іншае месца на вольнае паветра. Вывешваньне насьценгазэты па-за хатай-чытальняй і ўзмацненьне аграномічна-каапэрацыйнага матар'ялу ў насьценгазэтах, а таксама вывешваць на дошцы абвестак розныя здарэньні і навіны з міжнароднага і ўнтранага становішча.

**Праца з кніжкай** павінна праходзіць у часы адпачынку сялянства шляхам чытаньня папулярных кароткіх і дзелавых кніжак па пытаньнях, найбольш цікавячых для сялян у сувязі з летняй сельска-гаспадарчай працай. Шырокае скарыстоўваньне бэлетрыстыкі, арганізацыя чытак цікавых твораў, выкарыстоўване прыёмаў расказваньня, дзе магчыма арганізаваць дзіцячыя гадзіны для гучнай чыткі ў мэтах найбольш шырокай папулярызацыі кнігі, рабіць выстаўкі танняй літаратуры і імкнуцца да яе распаўсюджваньня.

**Мастацкая праца:** арганізацыя на вольным паветры (пляцоўках) спэктакляў у дні адпачынку і сьвят селяніна, пастаноўкі паліт і аграсудаў, інсцэніровак, жывой і вуснай газэты, прыстасаванай да мясцовых умоў, арганізацыя разумных гульняў, вечароў самадзейнасьці са скокамі, сьпеваў рэвалюцыйных і народных песьняў і іншых гульняў на вольным паветры. На гэту галіну працы ўлетку хатніку трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу.

**Экскурсійная праца:** арганізацыя ў дні адпачынку калектыўнага наведваньня палёў і вопытнай гаспадаркі пад кіраўніцтвам агранома ці сьвядомага ў гэтай працы таварыша і іншыя экскурсіі ў поле, лес і г. д.

**Гуртковая праца** павінна праводзіцца ня так часта. Сельска-гаспадарчы гурток павінен перанесьці сваю працу на практыку—закладка паказальных палёў, збор экспанатаў гэтых палёў і падрыхтоўка іх да дню ўраджаю і сел.-гаспадарчай выстаўкі. Прыродна-навуковыя гурткі заняткі праводзяць, галоўным чынам, па вывучэньню прыроды і гісторыі краю.

Асаблива хатнік павінен добра заняцца справай вывучэньня свайго раёну вёскі з тым, каб к пераходу на зімовы пэрыяд пабудаваць сваю працу з умоў канкрэтнага запатрабаваньня сялян.

Вось галоўныя напрамкі, па якіх павінна праводзіцца палітасьветная праца ў летні час.

**І. Ходька.**



# Недахопы ў правядзеньні ўсеагульнага навучаньня трэба зьнішчыць.

Водлуг даных Акруговага Інспэктарыяту Нарасьветы, па гораду Менску ахоплена школамі 96 проц. дзяцей 8-гадовага ўзросту. Не наведвала школу ўсяго каля 100 дзяцей, галоўным чынам, па хваробе і дзякуючы недахопу адзеньня і абутку.

Якія-ж недахопы назіраліся ў практычнай працы пры правядзеньні ўсеагульнага навучаньня для дзяцей 8-гадовага ўзросту?

1927-1928 год быў першым годам ажыцьцяўленьня ўсеагульнага навучаньня для дзяцей паказанага ўзросту, і, зразумела, як пры кожным вопыце, мы і ў гэтай справе мелі як памылкі, так і недахопы.

Вось яны: праца па выяўленьню і ахопу дзяцей 8-гадовага ўзросту летась была разгорнута пазнавата. Разам з тым слаба была прыцягнута грамадзкая думка да пытаньня ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня.

Праца па ўвядзеньню ўсеагульнага навучаньня ў прыгараднай мяжы сарвалася, бо позна распачаліся ў школах заняткі, сам вучэбны год праходзіў ня зусім нармальна, частка вучняў з наступленьнем цёплых дзён кінулі заняткі. Зразумела, што тут прыходзіцца вінаваціць нашыя нізавыя органы ўлады і арганізацыі ў прыгарадных вёсках. Віна іх заключаецца, галоўным чынам, у тым, што вельмі мала ўвагі было адведзена ў штодзённай працы папулярызацыі ідэй усеагульнага навучаньня, мала гаварылася з насельніцтвам аб нармальным працягу вучэбнага году і наогул, відаць, мала папулярызавалася сярод насельніцтва праца самых школ. Частка віны ляжыцца і на настаўніцтва гэтых школ, якое па нашай думцы мала вяло барацьбу за своечасовы пачатак і канец вучэбнага году. Мы можам прывесьці шэраг прыкладаў, калі, не зважаючы на ўсялякія аб'ектыўныя ўмовы, настаўніцтву, якое шчыра бралася за ажыцьцяўленьне нармальнага працягу вучэбнага году,—гэтае ўдавалася з посьпехам ажыцьцёвіць.

Мы павінны таксама адзначыць і тое, што поўнаму ажыцьцяўленьню ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня ў менскіх умовах перашкаджалі дрэнныя матар'яльныя і санітарныя ўмовы школ. Дагэтуль у нас у чырвонай сталіцы Беларусі ня зьнішчаны такія недахопы, як многазьменнасьць:—не пасьпеюць вучні адной групы выйсьці з клясы, як ужо прыходзіць на заняткі другая група, а за ёй трэцяя і г. д.—аж да позьняга вечару. Пры такім становішчы ў нашых гарадзкіх школах, зразумела, далёка да нармальных умоў працы і часткова апошнія перашкаджалі поўнаму ахопу 8-летак.

Поўнаму ахопу школай дзяцей 8-гадовага ўзросту перашкаджала і тое, што недастаткова была аказана дапамога вучням бедных бацькоў, дзецям якім ня было ў чым хадзіць у школу.

На апошнім пасяджэньні прэзыдыуму Менскага Гарсавету намечаны шэраг мерапрыемстваў для зьнішчэньня ўсіх недахопаў, якія назіраліся пры правядзеньні ўсеагульнага навучаньня сёлета.

З наступнага году абавязковае навучаньне павінна ахапіць ужо дзяцей 8 і 9-гадовага ўзросту.

Дадзены ўказаньні ў наступным вучэбным годзе ў першую чаргу прыняць у школу тых дзяцей 9-гадовага ўзросту, якія ня былі ўцягнуты ў школы сёлета.

Пастаноўлена палепшыць санітарныя ўмовы школ. Для гэтай мэты мяркуецца прадугледзіць павялічэньне асыгнаваньняў на гаспадарчыя выдаткі і запрапанована больш акуратна сысківаць плату за навучаньне.

Летась быў слаба наладжаны вучот прыяжджаючых і выяжджаючых вучняў, а таму даручана адміністрацыйнаму аддзелу распрацаваць адпаведны праэкт зьмены абавязковай пастановы аб вучоце насельніцтва. Заяўка і выяўка дзяцей 8-9 гад. узросту будзе праводзіцца дарэмна.

Зьвернута гарсаветам таксама ўвага на неабходнасьць упарадкаваць пытаньне з другагоднікамі, у прыватнасьці мяркуецца адчыніць падсобныя групы для іх.

Запрапанавана інспэкцыі нарасьветы абавязаць усіх бацькоў, дзеці якіх не наведвалі сёлета школы, палпіскай аб пасылцы імі сваіх дзяцей у школу ў наступным навучальным годзе і пры невыкананьні абавязацельств больш злосныя будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасьці.

Зразумела, толькі тады мы даб'емся посьпеху ў правядзеньні абавязковага ўсеагульнага навучаньня, калі на дапамогу ў гэтай важнай справе будзе прыцягнута ўся савецкая грамадзкасьць і ўсё наша настаўніцтва.



# Краязнаўчая канфэрэнцыя школьнікаў.

Першая спроба такой канфэрэнцыі была зроблена ўвесну мінулага году. Пачынальнікам гэтай справы было Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры. Сабралася на канфэрэнцыю каля 30 чалавек—вучняў і настаўнікаў.

У гэтым годзе малюнак канфэрэнцыі, скліканай Менскім акруговым таварыствам краязнаўства, быў крыху іншы.

На канфэрэнцыю 19 мая г. г. сабраліся вучні ад 22 менскіх гарадзкіх школ. Усяго ў ліку 85 вучняў і 6 настаўнікаў.

У мінулым годзе дакладчыкамі былі прадстаўнікі ЦБК і настаўнікі; выказалася ня больш 3-х 4-х вучняў.

У гэтым годзе канфэрэнцыя зразу распачалася з інфармацыі вучняў аб працы іх школьных краязнаўчых гурткоў. Вучні-ж давалі пытаньні і выказваліся; настаўнікі былі нібы госьці.

З інфармацыі выявілася, што замест 1-га краязнаўчага гуртка (пры 4-й школе) у мінулым годзе,—у гэтым годзе іх—5 (пры школах—2, 4, 14, 22, 29).

Цікавы зьмест працы гэтых гурткоў. Адны з іх заняты дасьледваньнем глебы, зьбіраньнем лекавых расьлін, вывучэньнем карысных і шкодных сысуноў, нагляданьнем над прылётам і адлётам птушак, замярзаньнем ракі Сьвіслачы і яе паводкамі, мэтэоролёгічнымі нагляданьнямі і г. д.

Другія- -дасьледуюць забруджанасьць Сьвіслачы, з мэтай выяўленьня прычын гэтай забруджанасьці, вывучаюць забруджанасьць звычайных студняў Менскіх ваколіц, з мэтай падняцьця іх санітарнага стану, наглядаюць за жыцьцём птушак і ставяць у гарадзкім садзе дзесяткі шпакоўніц.

Вось выступае вучань 4 школы і інфармуе юных краязнаўцаў аб працы свайго краязнаўчага гуртка.

Пачырванелы і ўсхваляваны, ён пералічвае даклады, заслуханыя на працягу году ў школьным кра-

знаўчым гуртку. Тут і «Каляды», і «Купальле» ў сучаснай беларуск. вёсцы, і «Іом Кіпур» у сучаснай яўрэйскай сям'і і «Землеўпарадкаваньне яўрэяў у БССР», і «Яўрэйская калектыўная гаспадарка Сморгаўка», пасёлак Пова-Апалінарава, завод Хэмік, Шпігінарны завод, каштарыс менскага рабочага з 15-XII 1927 г. да 15-I 1928 г. Каштарыс служачага, беспрацоўнага, Сьляпянскі сельсав. і іншыя.

Некаторыя гурткі браліся вывучаць менскія рынкі, як—«Віленскі базарчык» і «Траецкая гара». Некаторыя працавалі над стварэньнем прамысловага пляну г. Менску, вывучалі забясьпечаньне ваколіц Менску звычайнымі і «бітымі» студнямі і г. д.

З вучнёўскіх запытаньняў і выступленьняў відаць было, што яны разьбіраюцца ў закранутых інфармацыямі пытаньнях, што яны адчуваюць нейкую асалоду ў гэтай працы, бачаць яе грамадзкую карысьць. Так і сыплюцца словы — «карысьць, зьмяніць, мы павінны зьнішчыць гразь» і г. д. Відаць было, што школьнікі радаваліся, паказваючы свой удзел у грамадзкакарыснай працы.

У запытаньнях, у выступленьнях чуецца напружанае шуканьне **форм падагульненьня** школьна-краязнаўчай працы. Некаторыя гурткі знайшлі іх у форме часопісаў, выставак, запісаў. («Наш Край» часопіс школьна-краязнаўчага гуртка 4 школы).

Няпрыемнае ўражаньне робяць далікатныя скаргі некаторых вучняў на тое, што яны не знайшлі падтрыманьня з боку сваіх настаўнікаў у арганізацыі і наладжваньні працы школьна-краязнаўчых гурткоў. Затое шчырыя словы вучнёўскай падзякі прымушалі прыемна чырванець тых настаўнікаў, якія не шкадавалі «гадзін» для наладжваньня працы юных краязнаўцаў.

На канфэрэнцыі вызначан і прыняты наступны плян летняй працы для менскіх школьна-краязнаўчых гурткоў.

Торфараспрацоўкі Менскай электрастанцыі. Плошча распрацаваная і нераспрацаваная, запасы торфу па прыблізнаму падліку, спосаб распрацоўкі. Удзел машыны ў распрацоўцы арцелі і прадукцыйнасьць іх працы. Умовы працы і г. д.

Менская балотная станцыя. Асушаныя месцы і дзікае балота з сваей расьліннасьцю. Спосабы асушкі. Балотныя культуры. Карысьць.

Пашырэньне Менску. Забудоўкі пасьля рэвалюцыі. Месца, характар новых забудовак. Рост Менску ў напрамку „трактаў“ Барысаўскага, Лагойскага і г. д.

Сады нашай вуліцы (раёну) іх плошча, колькасьць дрэў і сартоў. Карысьць.

Дасьледваньне калодзежаў па краёх гораду і выкрыцьцё іх санітарнага стану.

Зьбіраньне расьлін.

Апісаньне якога-небудзь цыганскага табару. (Скуль ён, з чаго жыве. Культурны стан і г. д.).

Канфэрэнцыя зачынілася бяз гучных прамоў, вучні яшчэ доўга, згрудзіўшыся, разглядалі дасягненьні лепшых школьна-краязнаўчых гурткоў—часопісы, запісы—вынікі **сваёй** канфэрэнцыі мінулага году. А 6 настаўнікаў гутарылі аб другім...

**К. Шапялевіч.**

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

# Пачатак зроблен.

## (Аб інтэрнацыянальным выхаваньні ў школе).

Узаемаадносіны паміж дзецьмі розных нацыянальнасьцяў у нашых школах ненармальныя. Аб гэтым сьведчаць часта зьмешчаныя ў газэтах заметкі. Пытаньне аб нацыянальнай варожасьці паміж дзецьмі стала ў школе злобадзенным. Яно нэрвуе большасьць нашага савецкага настаўніцтва, але, нажаль, адзінага пункту гледжаньня аб ролі і задачах школы ў зьнішчэньні гэтае ненармальнасьці няма. Некаторыя лічаць, што школы ў гэтых адносінах нічога зрабіць ня могуць, што дзеці гэта пераносяць у школу з дому, і пакуль нацыянальная варожасьць будзе мець месца ў сям'і, школа нічога зрабіць ня зможа. Іншыя лічаць, што нацыянальная варожасьць — пытаньне вострае і балючае, але школа можа і павінна ўмяшацца ў гэтае пытаньне, не заставацца нэйтральнай і пачаць што-небудзь практычна рабіць.

15-я беларуская і 28-я яўрэйская школы знаходзяцца ў адным будынку (на розных паверхах), і паміж беларускімі і яўрэйскімі дзецьмі ня зусім нармальныя ўзаемаадносіны. Былі выпадкі, калі дзеці біліся, што мела нацыянальны характар. Настаўнікі малодшых груп абедзьвюх школ, разгледзеўшы гэтае пытаньне, парашылі выкарыстаць першамайскае сьвята для зблізкэньня дзяцей гэтых школ.

Пытаньне гэтае было добра абгаворана на пасяджэньні настаўнікаў малодшых груп абедзьвюх школ, на якім пастанавілі—наладзіць 1-га мая супольны ранішнік з удзелам бацькоў.

У часе падрыхтоўкі да сьвята былі арганізаваны ў кожнай школе гутаркі па гуртках, дзе асьвятляўся інтэрнацыянальны характар першамайскага сьвята і неабходнасьць наладжваньня добрых адносін паміж дзецьмі абедзьвюх школ.

Супольныя рэпэтыцыі нацыянальных скокаў розных народнасьцяў харавая дэклямацыя «нас шмат», апавяданьне аб жыцьці кітайскіх дзяцей—рабочых, першамайская дэклямацыя на беларускай, расейскай і яўрэйскай мовах. Збор грошай на ўзаемныя падарункі, каб у дзяцей больш засталося ў памяці аб гэтым першым супольным сьвяце.

Падрыхтоўка нацыянальнай вопраткі для розных народнасьцяў і г. д.

Вынікі гэтай працы можна было адчуваць з першага-ж дню падрыхтоўкі да сьвята. Дзеці апавядалі адзін другому аб ходзе падрыхтоўкі да сьвята ў сябе ў школе, пачалі разам хадзіць дадому, чаго дагэтуль ня было.

На ранішніку дзеці ў сваіх кароткіх выступленьнях шчыра гаварылі: «ня трэба больш біцца», «будзем супольна гуляць», «трэба любіць друг друга».

Вопыт 15-й і 28-й школ сябе апраўдаў, але гэта толькі пачатак. Справу інтэрнацыянальнага выхаваньня трэба праводзіць і надалей, шляхам супольнай клюбнай працы, гульняў і г. д.

Усе школы павінны выкарыстаць вопыт гэтых школ і пачаць праводзіць працу ў гэтым напрамку. Толькі ў гэтым выпадку можна будзе мець вялікія дасягненьні ў барацьбе з антысэмітызмам і наогул з нацыянальнай варожасьцю. Задача савецкай школы ўмяшацца ў жыцьцё, мець уплыў на яго, перарабіць акаляючае жыцьцё. Выканаўшы гэту задачу, школа выканае і сваю вялізарную ролю ў справе падрыхтоўкі новых кадраў будаўнікоў-інтэрнацыяналістаў.

**Настаўніца.**

1-я друкарня, Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Галоўлітбел № 302.